## З дзённіка бяссонніцы

Круціць жорны недаспаны гром.
П’яны дождж праз ручаінкі скача.
Ноч ідзе з пагаслым ліхтаром.
– Хто схіліўся нада мной?
– Вушача…

## Нявесціцца…

На замчышчах,
Каля забытых двароў,
Дзе хмыз вырастае нахлынна,
Нявесціцца
Хутаранка шыпшына –
Калючы позірк,
Зялёная кроў.

На волі
Ружова бачыцца свет,
Ніжэюць
Захмарныя кручы.
І сватаецца,
Таксама калючы,
Дзядоўнік –
Шляхетнавусы сусед.

Уздыхання
Расчуленых сівяроў
Незгаворлівая прычына,
Цвіце асцярожна
Цыганка шыпшына –
Калючы позірк,
Зялёная кроў…

***

Сінічкі раннія спевы
Спрабуюць давесці да ладу.
Зялёныя зоркі спеюць
У небе старога саду.

Хапае журбе разгону,
Каб аблачынкай стацца.
З успомненага палону
Не хоча душа вызваляцца.

***

Асланяе брамку ў родную хату
Зялёная аблачынка бэзу.
Комін надвор’ю
Плоціць квартплату.
Гэтулькі золата
Не снілася й Крэзу,
Колькі гарыць
На подзе ў шчытку.
Шчыток хавае дым за шчаку.
Чалеснік чарнее.
Адвячорак аднекваецца:
Цур, не я…

## Паклон

Б’ю чалом вам
Да самае чорнай зямлі,
Спаконвечныя дрэвы,
Бо зялёнымі вуснамі моліцеся,
Слязамі жоўтымі плачаце,
Пераразяблымі кстамі жагнаецеся
Над самотнай магілай
Мамы…

***

Мама
Радзей пачынае сніцца.
Ці ўсе клопаты
Забрала з сабой
І часу не мае?
Ці застаецца мала
Да нашай сустрэчы?

***

На волю Бог адпусціць да пары.
Мудрэй, блазнуй,
Гавей ці разгаўляйся.
Пакуль растуць,
Нібы грыбы, сябры,
Над поўнай чаркай зману
Нахіляйся.

І думай,
Што сабе ты гаспадар,
Што ты не абавязаны нікому,
Што цемра не затушыць
Твой ліхтар,
Што адусюль ты вернешся дадому.

І будуць пры табе твае гады –
Павадыры твае і хадатаі.
І ты на ўсё забудзеш,
І тады
Бог пра сябе
Спакойна нагадае…

*Ліст да Васіля Быкава ў Нямеччыну*
*30 чэрвеня 2000 г.*

**Але…**

А што яшчэ
Мяне трымае тут –
Сябры, ўспаміны
Ды бацькоўскі кут.

Але штогод
Сяброў радзей, радзей.
Сплываюць успаміны
Без надзей
У памяці трымацца
Да канца.
І хата да апошняга вянца
І глухне,
І паціху асядае.
Старэе ўсё.
Хіба што маладая
З нябытам заручоная туга.

…І нешта затрымалася
Чарга…

***

І я адсюль сыйду,
З нікчэмнай мітусні.
І ўрэшце ў глыбіні
Я карані занайду.

І прарасту знава,
Каб тут пабыць яшчэ,
Пакуль расце трава,
Пакуль вада цячэ…

***

Адшчапіўся ад яблыні
Сук жывы
З яблыкамі зялёнашчокімі.
Толькі што вітаўся з аблокамі
І вось ужо –
Вязень травы.

Да ствала
Не прыстане кара.
І не прырасце
Адламанае.
Сук,
Не застрахаваны пашанаю,
Нагадаў, што і мне
Падумаць пара…

***

Душа сабралася дамоў,
Ды ўсё-ткі затрымацца мусіць.
Душа трымацца хоча,
Мусіць,
Сваіх нязмушаных дамоў.
Пакуль не спраўдзіць іх усе,
Сябе ў адвечнасць
Не ўзнясе...

***

Ты сабе, душа,
Свабодна лётай.
Я дабуду тут
Зямную рату.
Чую, кліча мама
З неахвотай.
Клікала не так,
Бывала, ў хату…

***

А двор травою зарастае.
Сушэй расе,
Глушэй пчале.
І сцежка –
Быццам складка тая
Ў малітвы ціхай на чале.
Баюся спадабацца скрусе.
І нада мною
Страх, як птах.
Каго спытаць,
А ці вярнуся
Пад бацькаў вяз,
Пад сонны дах?
Ды й не дачуюся адказу
Ад распагоджанага дня.
Пажоўклы ліст
Спадае з вяза –
Мая апошняя радня…

## **Каб мог…**

Калі я аднойчы
Свет гэты пакіну,
З крывіцкіх паданняў
Змайструйце мне дамавіну.
Закрыйце вочы
Маміным словам *сыночак*.
Велікодным світаннем
Труну ахініце.
Зацапліце васілёк
У даверлівым жыце.
Забіце века
Вушацкіх жартаў цвікамі,
Каб мог павітацца вясёла
Я з землякамі…

## Вечны

Ірве стаеннік павады,
На волю скача.
Мне адступаць няма куды –
За мной Вушача.
Яна за мной, яна ўва мне,
Я ў ёй – таксама.
Я вечны ў роднай старане,
Як слова *Мама*…

## Адказ

І калі б запыталі мяне:
– А што ты з жыцця свайго
З усяго запомніў?
Адказаў бы я словам,
Сплеценым з промняў,
Словам – рэхам самое самоты –
МАМА.

***

Як цёплы дождж ідзе па ярыне,
Тады здаецца, што хмурынкай стала
І мае ў небе клопату нямала,
Прыслужваючы маладой вясне.
Калі імгла лашчыны ахіне,
Здаецца, стала раніцай і дбала
Зноў завіхаецца, як і бывала,
Пакуль Купалка дрэмле ў баразне.

І не хапае голасу зязюлі.
І не хапае коласу святла.
І вушы слова добрага не чулі.
Прыгаслі вочы, як і дні, таксама.
І гэты свет у спадчыну дала
І закацілася, як сонца, Мама.

## Моўчкі

Берагамі тугі
Валакуцца вятры талакой,
Цягнуць невад смугі,
І трапечацца ў ім заранка.
На хутар,
Дзе пасвіцца
Знелюдзелы спакой,
Стала моўчкі прасіцца
Душа-хутаранка.

Там бакі напралежвалі
Маўчуны валуны.
Без сваяцкай душы
Ім самотна таксама.
Там вартуе дагэтуль
Бясхмарныя сны
І чакае бяссонная зорка –
Мама…

***

Цяжка запамінаю,
Як па-бацьку завуць
Маці друга.
Ці таму,
Што лішні раз
Хочацца вымавіць
Балючае
І жаданае слова –
Мама…

*11 мая 1974 г.*

***

Звыкаюся слухаць глухую стому,
Смялей каляндар пачынае гартацца.
Здаецца, ўчора я выйшаў з дому,
А ўжо дадому пара вяртацца.

Мае трывогі, мае дарогі
Парастрасала, паразмывала.
Прымлелі рукі, прысталі ногі,
Хацеў багата, а маю мала.

Пусціў на вецер свае дукаты,
Набыў сумненне, набіў аскому.
Здаецца, учора я выйшаў з хаты,
А ўжо вяртацца пара дадому.

Туды, дадому, дзе лугавіна
Улетку цёплая, як палаці,
Дзе долу кланяецца дамавіна.
Там мама сустрэне ў вечнай хаце.

***

Вочы твае
Нада мной узышлі
Сузор'ямі цішыні,
Сусветамі дабрыні.
Покуль ёсць яны –
Мне на зямлі
Светла,
Мама…

*10 чэрвеня 1966 г.*

***

Устал я жить в родном краю…
*Сяргей Ясенін*

Стаміўся ў родным краі жыць,
Чакаць,
Калі нарэшце доля
На зорках будзе варажыць,
Святлець
І болей верыць болю.

Відаць, і долі,
Як і мне,
Няўтульна,
Бо яна жывая.
І ключ,
Які згубіла ў сне,
Глыбей за пазуху хавае.

Ключ ад няспыненай ракі,
Ключ ад чакання і адчаю,
Ад краю роднага,
Які
Надзею шчодра пазычае…

***

Азяблы вецер
У чыстым полі
Шукае
Цяплейшую долю.
А доля,
І гэта засведчыць крыніца,
Не мае сама
Да каго прытуліцца…

***

Я жыў, як мне дазволіў Бог,
І гэтак век свой дажываю.
У край бацькоў
З хвароб, з дарог
Вяртаўся,
Як да весніц раю.

Быў родны і няродны рай,
Быў ноччу дзень,
І вечар – раннем.
Ды Творцу я маліў:
Карай
Не развітаннем,
А вяртаннем.

Хоць лёс адвернецца спіной,
Яны не ў страх мне,
Страху крокі,
Пакуль жывыя нада мной,
Як думкі Госпада,
Аблокі…

*Ліст да Васіля Быкава ў Нямеччыну*
*10 лютага 2001 г.*

***

Там мой цень, худы і малады.
Там мой сон, бясхмарны, бестурботны.
У зімовых шапках халады
Перабельваюць снягоў палотны.

Там мой першы смех і першы плач,
Роспач першая і першы сподзеў.
Там я так і не сказаў прабач
Смутнай маме,
Калі ў свет выходзіў.

Там сядзяць на покуце Дзяды.
Там чакаюць добрыя нагоды.
Толькі й тым жывуць мае гады,
Каб туды вярнуцца
Назаўсёды!

***

Радзіма – дым ад вогнішча, якому
Дазволена ў Сусвеце падыміцца.
Яго кунежыць,
Прэч прагнаўшы стому,
Святая Мама –
Ў вечнай хаце жрыца.

Радзіма – смелая іскрынка жару,
Што грэе смутку ззяблыя далоні,
Каб даляглядзіцца шырэй абшару
І заставацца ў мройлівым палоне.

Радзіма – тая папялінка з прыску,
Што на чужыне залятае ў вока,
Каб як цяплей было свяціцца зблізку
Выгнанніцкай слязе
Сяўца й прарока.

Радзіма –
Дол і паднябессе тое,
Дзе ходзіць Слова Бога пехатою.

*Ліст да Васіля Быкава ў Злату Прагу*
*16 лютага 2003 г.*

***

Вушацкі край – жыву адным табою.
І колькі суджана мне на вяку,
Я пакланюся нізка вушаку
І кожнаму іржаваму прабою.
Звяртаюся з набожнаю мальбою,
За подаўкай сляпцом цягну руку:
Падай, як жабраку, як земляку,
Хоць слова маміна з лясной журбою.
Бо пачынаю глухнуць без яго я,
Як дзень – старэць, як вечар – вечарэць.
Час рэдзь ніты, але пакінь хоць рэдзь,
Каб выткалася слова дарагое,
Якое б выбегла мой сум сустрэць.

*Ліст да Васіля Быкава ў Нямеччыну*
*1 мая 2002 г.*

***

І зразумееш на чужых вятрах,
Што толькі дома ты і быў адзіны.
Цяпер, як гук забытае лаціны,
Наводзіш на сябе самога страх.
Жывеш ужо ні дома, ні ў гасцях,
Узгадваючы родныя мясціны,
Адкуль прыходзяць чорныя вясціны.
Там засяляюць могілкі прасцяг.

Пра ўсё, што мелася ў жыцці адбыцца,
Лёс напісаў калісьці на пяску.
Даўно пісьмёны змыла навальніца.
Адзін туды зрабіўся шлях кароткі,
Дзе, на спачын прылёгшы неўзнаку,
Цябе цярплівыя чакаюць продкі.

## Краіна белых стрэх

Спачні пад снегам, брукаванка.
Бетонам зух-прагрэс пабег.
Шаноўная шаша-шляхцянка,
Вядзі ў краіну белых стрэх!
Там рондаль клопату лудзіцца.
Не помняць пра свае гады
І маладая маладзіца,
І верабейка малады.

## Звязаў…

Бацькаў вяз
Мяне з зялёным дворам
Вязямі ласкавымі звязаў.
На суках спачыць
Дазволіў зорам,
На лістах
Расою стаць слязам.

Мацае глыбока каранямі,
Выбірае мейсца для труны.
Ліст раняе,
Сум абараняе,
Бо пакралі радасць груганы.

Дрэва радаводнае
Гайдае
Цені ціхіх продкаў,
Пра якіх
Сон паганскі
Толькі й нагадае.
Ходзяць крокі…
Гэта нехта з іх…

## Зноў

І чую,
Як маркота плача,
Пакуль маркоўнік не прычах.
І адчуваю,
Як Вушача
Змяркаецца ў маіх вачах.
І як не вырвецца з сяродкі
Душа –
Яе гукнулі продкі.

## На тое...

На тое Звышнім даецца радзіма,
Каб ведала сэрца,
Дзе біцца павінна.
Радзіму забыць
Ці набыць немагчыма.
Радзіма – дрэва Сусвету,
Галіна,
На якой сваю песню гушкае
Любоў небакрылай птушкаю...

***

I на зямлю, і ў сціхлую душу
Прыходзяць халады гаспадарамі
Пацешыцца халоднымі дарамі,
Перахапіць дыханне скавышу.
Плач завірухі ў цішыні ўвушшу
Не моўкне роспачнымі вечарамі.
Азябшы, рэха крадзецца дварамі
Пакрыўдзіцца сабе, як спарышу.

Цяплей спяшацца думкам на радзіму.
Смялей на белы свет глядзець імгле.
Падперці неба не цярпіцца дыму.
І святы йдуць марознаю хадою.
І трызніць лугам сена на стале.
І пахне снег багатай Калядою.

***

На бацькоўшчыне
Ў даўнюю хату заходзь.
Вінавата сагніся
Ў малебным паклоне.
Тут цярпліва чакае
Тугая аброць,
Што каня нецярпення
Трымала ў палоне.

Пасядзі за сталом,
Дзе сядзелі Дзяды,
Дзе куцця пахла сенам
На тыя Каляды,
Што паглядам змушалі
Цяплець халады,
Маладзік малады
Пасвіў зорныя ляды.

Папрасі прабачэння
Ў забытай слязы,
Зразумей, што твае
Смеху варты турботы.
Тут чакаюць цябе
На куце абразы,
Цені ў стылых вуглах
І ў парозе – самота…

*Ліст да Васіля Быкава ў Нямеччыну*
*5 красавіка 2000 г.*

## Калядны верш

У ноч калядную збяры
Усіх здарожаных, халодных,
Усіх забытых і галодных
І раздары свае дары –
Усё, што даў табе Гасподзь,
Каб ты апошнім
Мог дзяліцца.
Бо ўдачы гладкая цяліца
Пасецца, каб аддаць стакроць.

Прасі на кут сваіх Дзядоў
Абнашчыцца куццёю коснай,
Каб не шукаць гадзінай познай
У небе памяці слядоў.
Як вогнішча, разварушы
Тугу,
Што пазірае нема.

І ціха вока Бэтлеема
Узыдзе ў поцемках душы.

## Айчына думкі

Айчына думкі.
Ува мне яна
Паўсюль, дзе быў
І дзе яшчэ не буду.
Здарожаная думка мне звідна
І дацямна
Укленчыць раіць цуду.

Цуд непачуты на зямлі расце,
Якая й называецца Айчынай.
Таксама на здарожанай вярсце
Сустрэцца мусяць
Вынікі з прычынай.

Айчына думкі
Ахіне мяне,
Як роднага,
Здарожанай маркотай.
Малечы плач,
Што спаў у палыне,
На вушка нешта
Смеху скажа ўпотай...

## Над возерам ля Глыбачкі

*Сяргею Законнікаву*

Настрой як стаў на дыбачкі,
Так і звякуе.
Над возерам ля Глыбачкі
Зязюля закукуе.

Лілейнай пупавінаю
Перапавіта скруха.
Ў імя Айца й Сына і
Святога Духа
Кукуй, вяшчуха.

Гукні на ўсё наўколішча
Навіну такую,
Пад гэтым небам колькі йшчэ
Я пракукую?

Мне, куфру ўжо бязвекаму,
Не ў страхі страта.
Хоць некаму, хоць некаму
Наабяцай багата.

Ніхто й хвіліны –
Веру я –
Мне не пазычыць.

Табе ж ці лёгка,
Шэрая,
Паабяцаць, пазычыць?

## Ствары!

Паэт!
Ствары сабе Радзіму,
Дзе пахнуць снамі мурагі,
Каб ад слабога ўздыху дыму
Шугала полымя тугі.

Па незабытным, непазбытным
Тугой
Кругі свае заверш,
Каб першастрахам першабытным
І кожны гук дрыжэў за верш.



Верш,
Дзе жыве твая Радзіма,
Дзе рэчка чуе берагі.
А ты ўтрапёнымі вачыма
Глядзі на бераг свой другі.

***

Паэзія – хвароба ўсіх вякоў.
Паэзія – служанка й каралева.
Лірычных слёз рашучая залева
Астудзіць стому босых ступакоў.
Сцяжыны ўмуражэлыя радкоў
Бягуць пад засень ранішняга дрэва,
Дзе яблык падала Адаму Ева,
Дзе спяць сляды Пегасавых падкоў.

Што з вулічнай звязаўся, як вяльможа,
Паэт сябе й паэзію кляне,
Ды слабіну сваю не пераможа.
Ад славы камянеюць вершаробы.
Зірні наўкол – валун пры валуне.
Жыццё ад смутку гіне без хваробы.

## Адаму Міцкевічу

Litwo! Ojczyzno moja! Ty jesteś jak zdrowie...
*Адам Міцкевіч*

Паэты нараджаюцца ў карчме,
Каб іх пасля
Аплаквалі саборы.
Выгнанніку
Не ў спіну вецер дзьме –
Ён носіць край абражаны
З сабою.

Хмар вырай
Свіцязі слязу страсе,
Як пава з песні,
Што праз сад ляцела.
На саркафагу ружы
У расе
Паэту –
Не пыхлівасці злюцелай!

Маўчы, ўсыпальня каралёў…
Вякі
Прыціхлі
Над геральдыкай нямою.
Спытае нехта:
– Быў кароль які,
Калі пісаў паэт:
«Ojczyzno moja...»?

## Наўрад

Паэзія – вясёлы луг
Для скакуноў гарачых.
Паэзія – трывалы плуг
Для маладых аратых.
Паэзія – цяжкі ланцуг,
Які вязуць на клячах.
Паэзія – бясконцы цуг
Упартасцю зацятых
Даследаванняў –
Ці яна мана,
Ці яе няма.

Пра гэтае самá
Паэзія наўрад ці ведае.

***

Мастак –
Паплечнік і супернік часу.
Ўцячы ў сябе нялёгка мастаку.
І міг, як скакуна,
На ўсім скаку
Не запыніць, прынадзіўшы акрасу.
Няхай бягуць навыперадкі з часам
Смялелы вецер і ўчадзелы дым.
Мастак –
У край здзіўлення пілігрым –
Глядзіць, як міты ходзяць самапасам.

*Ліст да Васіля Быкава ў Нямеччыну*
*27 лістапада 2000 г.*

## **Mater atrium necessitas**

*Генадзю Мацуру*

Маці ўсіх мастацтваў –неабходнасць.
Неабходнасць рупіцца,
Каб жыць.
Неабходнасць змусіць верагоднасць
Да задумы плён прываражыць.

Неабходнасць звыклае з'іначыць,
Прыкарміць святлом,
Як птушак, дні.
У падкове
Смех вясёлкі бачыць,
Чуць у слове
Крокі цішыні.

Сцежка да раскутасці крывая.
Лёс здаўна
Скупы ў сваёй дзяльбе.
Мастака па-над сабой трымае
Неабходнасць выказаць сябе…

## Зайграў…

– Бог ягоны зайграў у дуду, –
Пра шчаслівага так казалі,
І ўяўлялі,
З нябеснае залі
Як мятлой вымятала бяду.

Бог іграў
І прытупваў нагой,
Ну, вядома ж, у хромавым боце.
А цыбаты бацян на балоце
Аж заходзіўся цёмнай тугой.



У майго без мяне хопіць спраў.
Хоць бы ў лапаць абутай нагою
Ён прытупваў,
Каб чуць мне такое:
– Бог ягоны ў жалейку зайграў…

## Аскепак

Ганчар нябесны, рупны ў хараstве,
Адчуць майстрам параіў
Крылы за спіною.
Красой адзінай чалавек жыве –
Аскепак космасу
І сон бяды зямное.

І творацъ дзіва сонца, і вятры,
І чалавек –
Чаляднік клопату жывога.
Пакуль слывуць майстры і штукары,
Датуль спакойна за зямлю
На сэрцы ў Бога…

## Аднойчы

Аднойчы хоча асмялець мастак
Спадручным Усятворцавым назвацца,
Перш чым на хмараплывістых мастах
З душой сваёй зажуранай спаткацца.

На развітанне шчырая душа
Распавядзе,
Дакуль яна трымцела.
Увогуле любы мастак –
Ляўша,
Калі ён сэрцам творыць звар'яцела.



Калі ён сэрцам бачыць гэты свет
І той,
Што як свайго яго чакае.
Тут на зямлі пакінуць ціхі след –
Фатыга асалодліва цяжкая.

Пад мройны плён
Падставіўшы латак,
Не дазваляе лёс сябе калечыць.

І лічыць вёрсты зорныя мастак,
Якімі йсціме
Ўсятворцу ўкленчыць.

**Каб паспеў…**

Нябёсы мастаку, як ліхвяры,
Час пазычаюць,
Каб паспеў адбыцца,
А не абы адбыць наканаванне.
Тут, на зямлі, штодня
Ісці з гары
Туды,
Дзе неўміручая крыніца
Вясёла зазвініць на развітанне.

Па незямных мастах
Свой цень мастак
У сваты пасылае да надзеі,
Каб доўг вярнуць свой
З гакам і не позна.
Бяроза радасці на веснавых лістах
Калыша цішыню і маладзее.

Ад прымакоў у Вечнасці завозна.

## Вершапраходцы

Вершапраходцы крывіцкай мовы,
Іх шлях
Не ўсыпаны быў васількамі.
Гатовыя да размовы з вякамі,
Знаёмілі з рэхам
Знямелыя словы.

Вучыліся ў неба
Нахмарваць бровы.
Жар-птушку рыфмы
Лавілі ў блакіце.
Шматкроп’е зорак
Ставілі ў міце
Вершапраходцы крывіцкай мовы.

## Нашча

Туман пакут скроні часу выбеліў.
Кайнасць запозненая замаўчала.
Мама –
Мая небадарная Біблія,
Якая мяне да жыцця прыручала.
Грахоў неадольных
Прадонная яміна
Разяўлена, як галодная пашча.

Жыве ўва мне
Кожнае слова маміна.
Бібліі ўдзячны,
Малюся нашча…

## Вырай зорны

*Генадзю Бураўкіну*

Хай час рукой прысталай
Круціць жорны
І пыцель высыпае
Нам на скроні.
Наш шлях дабраслаўляе
Вырай зорны,
Мы ў найжаданейшым
Самапалоне

Крывіцкае зямлі
І наскай мовы.
Пакуль з дазволу Звышняга
Жывыя,
Схіляем перад воляю галовы.
А хіжы здраднік
Хай ад злосці вые.

І дрэва Беларушчыны святое
Падрыць не змогуць
Прыхадні лычамі.
Не звыклі быць
Ні ў кога пад пятою
Усе, хто ў свет прыходзіць
Крывічамі!

***

Ты ад маці, ты матчына,
Беларуская мова.
Зорамі растлумачана
Сэрцу кожнае слова.

Ты, як раніца, шчырая,
Маеш цёплыя рукі.
І вяртаюцца вырaі –
Толькі б чуць твае гукі.

Там, дзе ёсць ты, – пагодліва,
Дзе няма – там зімова.
Будзь для ўдзячных паходняю,
Беларуская мова!

## Напярэдадні

З усяе маёй негустой радні
Словы маміны
І засталіся жывымі.
І таму-такі напярэдадні
Развітання
Я гутару з імі.

І яны адны
Разумеюць мяне,
І яны таксама
Адны засталіся.
Іх адных, незабытых,
Нябыт абміне.
Можа, ўспомняць яны
І мяне калісьці…

## **Чалом!**

*Крывіцкай мове*

Крывіцкая мова матчына,
Ты нашчышся даўняй журбой.
Маёй прысутнасці мачына
Трываліцца толькі табой.

Крывіцкая мова шчырая,
Гляджу з-пад твае рукі,
Як дзён launched
Лятуць праз мяне ў вякі.

Крывіцкая мова няспынная,
Нявесціцца твой пасаг.
І гэта жыццё пакіну я
Са словам тваім на губах…

## Маміна слова

І на пачатку Слова было,
І слова было ад Мамы.

Маміна слова
Мне свет гадавала.
Анёл далікатны самы
Браў слова маміна пад крыло,
Каб на яго
Ні дажджынкі не ўпала.

Маміным словам
Малюся й хварэю,
Маміным словам
Баюся й смялею.
Маміным словам
Жыву!

## Слова кожнае…

Слова кожнае мае свой смак –
Паспытаць бы яго хацелі
І жаўрук з нябеснай арцелі,
І прыручаны птах –
Вятрак.

Слова кожнае мае свой пах –
Пахне зорамі й лебядою.
Соратамленае хадою,
Галаву хавае ў снапах.

Слова кожнае мае свой шлях,
Каб прайсці яго абавязкова.

На губах успыхвае слова,
Каб пагаснуць яму на губах…

## Крыгаслоў

На крызе слова думка плыве
Па вірлівай пратоцы дапытлівасці,
Каб на роўнядзь развагі выплысці
І на выспе прыспанай роспачы,
Якой здаецца,
Што й яна аблачынкай плыве,
Ашукаўшы бяспамяцця ноч,
Прайсці басанож
Па траве,
Зялёнай ад кпінаў
І зацятых усмешак,
І ўрэшце сесці на ўзмежак
Роздумнага спакою.
Ды ніца схіліцца,
Не заўважаючы тло,
Каб шалёнага адкрыцця бліскавіца
Трапяткою рукою
Халоднаму сэрцу
Пераксціла чало.

## Хто?

Хто старэйшы, думка ці слова,
Хто шчырэйшы з іх?
Даць адказ,
Можа, зможа чорнагаловы
Змрок спрадвечча, што доўга гас,
Покуль вёў са святлом змаганне.
Смутак слова гукаў,
І гук
Узышоў на нябеснай паляне.
Слова выпала ў Бога з рук.

Думка ўспыхнула невыпадкова
І святлу дадала святла.
Бог спачатку задумаў Слова.
Сведкай гэтаму думка была.

## Падзяка

*Айцу Уладыславу Завальнюку*

Слова пастыра душ людскіх
Запрасіць можа
Нават зоры
Спаднябесіць зямныя прасторы,
Рух ракі
Разняволіць ад крыг.

Рух ракі,
Што цячэ праз вякі,
Наталяючы смагу веры.
Ў хаце вечнасці
Вузкія дзверы
І грахоў цяжкія замкі.

Усятрымцу
За кожны міг,
Поўны ўкоптур
Жыццёвага смаку,
Вучыць,
Як узносіць падзяку,
Слова пастыра душ людскіх.

## І нават у снах…

І нават у снах,
Як той заяц ваўкамі,
Паўсюдна
Аточаны я чужакамі.

Халодныя ўсмешкі,
Прачулыя кпіны,
Ад нашага скарбу
Сагнутыя спіны.

Галодная хцівасць,
Няродныя словы.
Зашыцца, схавацца,
Ўцячы я гатовы

Да птушак, звяроў
У бары ці дубровы.
Хоць там
Не пачую
Чужацкае мовы!

## Прыходзіць...

Потым ён робіцца
Бездапаможным віноўнікам
Вэрхалу.
Потым знішчае
Сябе безгалова.
А прыходзіць на свет
Чалавек садоўнікам –
Гадаваць у сэрцы сваім
Гасподняе Слова...

## Вешчае

> На пачатку было Слова,
> і Слова было ў Бога, і Слова было Богам.
> *Дабравесце паводле святога Яна 1.1.*

Сапраўды было
Усяісным Богам
Вешчае Слова.
Словам абнашчылася
Святло.
Змрок невыпадкова
Нанова
Зацвярдзеў падступным парогам
Тым,
За якім
Сам сябе грэе сподзеву дым.



Словам прыходзіць да нас
Духатворца абавязкова.
Усявышні дае нам дазвол
Імкнуцца
Бачыць і чуць Слова
Гэтак,
Як бачыць Яго небадол.

Першым словам сваім
Вітаем свет гэты,
Подыхам Гасподнім сагрэты.
Апошнім словам, глухім,
Развітваемся са светам,
Верачы,
Вечнае Слова жыве
*Там…*

## На мове матчынай...

На мове матчынай
Душа да Бога
Звяртаецца з падзякай і мальбой.
На мове матчынай
Крычыць трывога,
Пакуль маўчыць неразгуканы боль.

На мове матчынай
Душа вітае
Чаканай раніцы першапрамень.
На мове матчынай
Імша Святая
На плён дабраслаўляе рупны дзень.

На мове матчынай
Душа смуткуе,
У свет адчуўшы новы свой прыход.
На мове матчынай
У трапяткую
Раку жыцця ўцякае кожны род.

## 28 чэрвеня 2004 года

Гэта лёсам пасланая
Ласка Тварца,
За якую душа
Вечна кленчыць гатова.
Ў Вечным Горадзе
З вуснаў Святога Айца,
Як з нябёсаў,
Пачуць беларускае слова.

Шмат забудзецца,
Счэзне, зніцее, міне.
А да скону запомніцца
Абавязкова –
Папа Рымскі
Дабраслаўляе мяне.
І ў Яго як свая
Беларуская мова.

## Святам свянцонае

Схілілася нада мною святое,
Святам свянцонае
Маміна слова.
Недзе над Вечаллем,
Над Палатою
Сонца ўзыходзіла светлагалова.

Потым
Душу агарнула журбою
Ды варажбою
Купалава слова
І наказала застацца сабою,
Каб беларусам –
Абавязкова!

Каб не пакінула
Наская сіла,
Іскры красала
Старанна падкова.
Маміна слова
Мяне пераксціла,
Багаславіла
Купалава слова.

***

Толькі калі пішу,
Дыхаю і жыву я.
Слухаючы душу,
Лечу сваю галаву,
Зношаную,
Сівую.

Раю пачуць святло
Думкам –
Заспаным совам.
Адно баюся,
Каб не было
Сорамна
Перад словам…

## Як той агонь…

Як той агонь,
Заснулы ў макавым зярнятку,
Што спаліць жарсцю
Ці ачысціць светлатой,
У сэрцы кожным
Беларусь жыве спачатку
Двайніцай ніцаю Заступніцы святой.

Як спаліць –
Прысак застанецца летуценны,
Што хоць на міг які
Адбеліць чарнату,
Асвенціць верай,
Каб наступныя калены
Чужак не пяўся пакасіць, як асіту.

Агонь ахвярную такую мае жменю,
Якая голай будзе, колькі ні дары.
Агонь – сваяк гарачы каменю й агменю.
Агонь ніколі не праспіць
Свае пары.

***

Мы нясем свой крыж наканаваны.
Хто плячо падменіць,
Не чакаем.
Як ні душаць нас, мы не знікаем.
Шлях да волі
Не ў прысадах шаны.

Трэба –
Самі зробімся крыжамі,
Каб спачыў адчай на крыжавіне.
Слава, лёгкая на прыпаміне,
Расчытае нам наноў скрыжалі.

Там, дзе гай крыжоў пакарчаваны,
Ценям цесна на балючых лядах.
У нябёсах душаў і ў паглядах
Беларусь –
Наш крыж наканаваны…

*Ліст да Васіля Быкава ў Нямеччыну*
*30 чэрвеня 2001 г.*

## Нашчадкі

Знікаюць беларусы,
Як зубры,
Прыручаныя
Гаспадыняй воляй.
Ні Белавежаў,
Ні бязмежжаў болей
Няма.
Як ні хітры,
Як ні мудры.

Дом стаўся цесным
Для гаспадароў.
І ланцугі куюцца
Кавалямі.
Нашчадкі
Ценямі валадароў
Род доўжаць
Паслухмянымі валамі…

***

*Міколу Прашковічу*

«На Беларусі
Пчолы як гусі», –
Прыгадваў зямляк
у выраі.
Зоры спелі,
зоры гаслі,
Мох зязюльчын
рос на выварatнях.
«Ем сырую зайчыну
Ды люблю Айчыну!» –
Прысягаў паўстанец
нябёсам.
Дзверы
дню младому
расчынены –
Расой ішла песня босая:
«Я здыму парчу,
Ножкі абвярчу…
Песню азяблую
Сагрэць хачу…»
Торкнецца ў крыгу
лыч карасіны,
Сонную роўнядзь успеніць.
Згару я
на вейцы тваёй
расінкай,
Беларусь –
мая мова
і песня.

## Набеларушваецца…

Канкрэтныя беларусы ў зямлі.
На зямлі бадай што прыблізныя.
А тыя,
Што самавіта праблiснулі,
Здаецца, зусім не былі.

Яна беларуская,
Наша зямля,
Бо гэтулькі беларусаў забрала.
А ўсё ёй мала й мала:
Раней, цяпер і пасля
Нас
Набеларушваецца ў запас.

***

Мы больш сваёй ахвярнасцю вядомы,
Мы, беларусы,
Мы – народ такі.
Ахвотна забываем, што мы,
Хто мы.
Згадаюць
Нашай памяці вякі!

Мы сціпласцю сваёй здаўна вядомы,
Саміх сябе хваліць нам не з рукі.
Хай слабакі
Аж падаюць ад стомы,
На плечы ўзяўшы
Пыхі мех цяжкі.

Мы ўсім сваёй гасціннасцю вядомы,
Надзейныя сябры і дружбакі.
І госць, і падарожны ў нас
Як дома.
А злым і травы колюцца ў бакі.

Гатовы ўсё аддаць –
І тым багаты,
Мы, беларусы,
Мы – народ такі.
Што з краю небяспекі нашы хаты,
Пра гэта
Не забудуць чужакі!

***

Звык цярпець
І сябе, й свой кон,
Думкі тоячы пад замком,
Беларус –
Як пакрыўджаны звон
З вырваным языком…

## Калі апошні…

Калі апошні беларус
Апошні дзякуй небу скажа,
Туга на сэрца Богу ляжа
І ўсцешыцца прыблудны хлус.

Бог і спахопіцца тады,
Што цягавітых не хапае.
На ласку й так зямля скупая.
І свет такі немалады.

Заселіць Беларусь наноў
Бог беларусамі такімі,
Што будуць на сваёй радзіме
Панамі без чужых паноў.

Край продкаў родны нездарма.
Душа без мовы – сіратою.
І вольны помніцьме пра тое,
Што шыі мулка ад ярма…

## Апора

*Пятру Васючэнку*

Ад сэнсу маючы ключы,
З мілосцю мудрасць спалучалі
Шляхетнейшыя палачане,
Харобрайшыя крывічы.

Аблогу цемры аручы,
Карчы валілі без адхлання
Разважлівыя палачане,
Даверлівыя крывічы.

…Насуперак чужой начы
Вы наша нашчыце світанне,
Галіністыя палачане,
Рэліктавыя крывічы…

**Змусь!**

У кожным беларусу
Беларус
Хай чуецца,
Як зерне ў араллі.
Каб замак духу нашага
На друз
Патрушчыць землятрусы
Не маглі.

У кожным беларусу
Хай, як кроў,
І мова беларуская
Цячэ.
І рэха,
Як з жывых муроў,
З бароў
Вярнуцца кліча нас
Радней яшчэ.

У кожным беларусу
Беларусь
Хай вырастае моцная,
Як бронь.
Ты – госць.
Дык з ласкай
Сам сябе прымусь
Быць беларусам
Шчырым, як агонь…

## Калыханка

Ціхі сон здалёк ідзе,
Не спыняецца нідзе.
Ён спяшаецца якраз,
Каб да нас паспець у час.

Спі, праменьчык родны мой,
Бог схіліўся над табой.
Перакшчонаю ў святле
Долю Ён табе пашле.

Спі, праменьчык залаты.
Волаты – твае браты.
Сёстры – зоркі ў вышыні.
Не злічыць усёй радні.

Над табой вякі плывуць.
Падрастай і дужым будзь
І душою, і плячом
Беларусам, Крывічом!..

## Уваскрэсне!

Чарнобыльскі жах
Не ўпалыніць наш лёс.
І стане пагодлівым летам
Прадвесне.
Хрыстос уваскрос!
Хрыстос уваскрос!
Хрыстос уваскрос!
І наш Край уваскрэсне!

## Крывічу

Сцяжыну жыцця не крыві.
Душу не ланцуж замяжою.
Пільнуйся сваёй крыві,
Не крыўдзі яе чужою.

Кармі, як падлётка
З рукі,
Абачлівы лёс на дагоду.
Будзь варты
Ва ўсе вякі
Свайго высакоснага роду!..

**Вяртаецца…**

На Беларусь вяртаецца Бог.
Беларусы ўспомнілі,
Што яны беларусы.
Трыпутнік аблудны
На раздарожжы пасох.
Бязвернікі ўжо не пнуцца ў Ісусы.

На Беларусь вяртаецца Бог.
Вера абражаная рунее.
За саломінку променя
Хапаецца лёх.
Наваселіцца
Ў душы знелюдзелай надзея.

Ступакамі кайнасці
Стоптваецца парог
Невідочнага незямнога палаца.
На Беларусь вяртаецца Бог,
Не спяшаючыся вяртацца…

## Быць!

*Ігару Сарокіну*

Быць беларусам –
Гэта значыць
Свайго ні гуку не забыць,
Усё чужое перайначыць,
Каб Беларусі вечна быць!

Быць беларусам –
Гэта значыць
Вясёла з сумнай долі кпіць,
Да Бога сцежку верай значыць,
Нагбом з карца надзеі піць.



Быць беларусам –
Гэта значыць
За родны Край згараць на дым,
Па-беларуску чуць і бачыць
На гэтым свеце і на тым.

## Вераю

Род людскі не злічыць вякоў,
Свой узрост
Ён згадкамі мерае.
Ад навалы з усіх бакоў
Беларусь засланялася вераю.

Кожнаму па сваім каўшы.
Як бабылка,
Туга вячэрае.
Д'яблу не прадала душы –
Беларусь утрымалася вераю.

У нябёсаў святла стае,
Каб адпрэчыць хмурыну шэрую.
Адмаліўшы грахі свае,
Беларусь адродзіцца вераю.

## **Каб не знік…**

Радзіма –
Гэта твой і матчын крык.
Айчына –
Гэта бацькава апора.
Радзіма рупіцца,
Каб род не знік.
Айчына дбае,
Каб ішла разора
Як найглыбей
Да неба ад зямлі.
Каб зерне вечнасці
Ў яе запала.
Радзіма шэпча:
– Грэх свой замалі.
Айчына кажа:
– Тут малення мала…

## Маленне за Беларусь

Божа, пашлі Беларусі
Ласку з Тваімі вачамі,
Сэрцы суцеш у скрусе,
Злітуйся над крывічамі.

Знікнуць, Святы, не дай нам
Ад рукатворнага жаху,
Верыцьмем вечным тайнам
Руху Твайго і шляху.

Божа, вярні дадому
Блудныя душы з выгнання.
Поперак духу злому
Воля Гасподняя стане.

Хай беларус беларуса
Будзе любіць як брата.
Светлая Імем Ісуса
Наша крывіцкая хата.

Божа, на ўсіх раздарожжах
Нас ад напасцяў варожых
Твой зберажэ напамін.
Амін.

## Беларусь – ты мой сон велікодны

Беларусь – ты мой сон велікодны,
Сон, што сніцца анёлам вясной.
Зрок і слых мой табою галодны,
Дух жыве мой табою адной.

Гэта ведае неба ды Мама –
Без цябе не бывае мяне.
І душа жыць не можа без храма,
Цяжка ёй у чужой старане.

Адусюль да цябе я імкнуся
Быць у шчасці з табой і ў бядзе.
Чысцінёю тваёй прычашчуся,
Сорам твой на мяне хай падзе.

## Рызыкую

Злом нявечаны, любосцю пешчаны,
Гадаваны цнотай і абразаю,
Гэты свет
Мне Богам запавешчаны,
За яго, пакуль жыву, адказваю.

Не набыў я на́быці для спадчыны
І не маю куфра кутавекага.
Гэты свет,
Вачмі маімі ўбачаны,
Рызыкую пакідаць на некага.

Як запалкі ад малога некалі,
Ад мяне памалу ўсё прымаецца.
Страшна разлучыць з маёй апекаю
Гэты свет,
Што за мяне трымаецца…

***

Жыццё міне
І не заўважыць
Цябе ў спрадвечнай мітусні.
Не шмат
Усё тваё заважыць
На шалях зла і дабрыні.

Твой лёс затоіць са спагадай
Усмешку сумную ў вачах.
І ўцяміш,
Ашуканы здрадай,–
Агонь патух
І жар ачах.



Адстануць ад цябе заганы,
Быць светлым
Стоміцца язмін.
І застанешся,
Ветрам гнаны,
Сабе самому на ўспамін…

## Anima

*Біскупу Антонію Дзямянку*

Пасланніца нябеснай вышыні
Праз ноч вядзе
Ў дасвецце сцежку долі.
Душа лічыць не ўмее
Нашы дні.
Хай табуны іх
Пасвяцца на волі.

Душа ці слова –
Што раней было?
Адкажа слова,
Бо з душой жывою.
Бяздушнае,
Дабру зайздросціць
Зло.
І прарастае напамін
Травою.

Гадуюць сум
Аблокаў астравы.
Турбуе думка
Цішыню глухую.
І тым адзіным
Чалавек жывы,
Што ён сваю душу
Пачуць спрабуе…

**Наканаваная няволя**

Жыццё – наканаваная няволя,
Якая хоча волю спад’ярэміць.
Са стрэмя выб’е,
Даланю застрэміць,
Калі табе дае рыдлёўку
Доля.

Рыдлёўку,
Каб дагрукаўся да скарбаў,
Капаў
І выкапаў сабе магілу.
Не чуе неба
Перуновых скаргаў.
І зацякае шыя небасхілу.

Нядоля
Любіць глухату раздолля.
І цішыні баліць
Трава жывая.
Яно сабе самому спачувае,
Жыццё – наканаваная няволя…

## З гліны

З гліны жывучай
Нябесны Ганчар
Рупна ляпіў чалавечкаў.
Смела сырых
Пасылаў іх у скваꝏр
Загартавацца спрадвечна.

Потым выцягваў,
Студзіў і на звон
Перапраўляраў палі́ву.
Надтрэснутых Ён
Не выкідваў вон,
І не пярэчыў здзіву.

Добра ў душы
На лёс свой зямны
Кожнаму накіпела.
Званочкамі светла
Звіняць адны,
Іншыя ныюць сцямнела…

**Халаднее…**

Паміраць сабірайся, а жыта сей –
Крывічы спрадвеку казалі.
Гэты свет мне ўжо
Робіцца як музей
З экспанатамі ў кожнай зале.
З экспанатамі шчодрых страт,
З экспанатамі сквапных набыткаў.
Град прайшоўся
Па могілках град.
Зман
Туман сівавусы выткаў.



Долу годна ўкленчыўшы,
Вышыня
Давярае свой сон забаве.
Халаднее забытна
Музей штодня.
І зачыніцца неўзабаве…

## Парушынка

Зямля –
Парушынка ў Госпаднім воку.
І колькі трывацьме Госпадзь яе,
Не дадзена ведаць ані прароку,
Ані вячніне,
Якой трывання стае.
А мы парушынку варушым, нявечым,
Каб Збаўцу яшчэ непамысней было,
Каб пра сябе нагадаць хоць нечым,
Перш чым глыне нас немае тло.

І з недасяжнага нам далёку
Нябачнасць бачыць,
Як час бяжыць,
Як парушынка ў балючым воку
Дрыжыць…

**Кон**

Вакно адчыніць.
Выйсці ў космас начы.
І Млечным Шляхам
Падацца кудысьці.
Свой страх
І мілосць сваю перамагчы
На гэтай зямлі,
Не знайшоўшы выйсця.

Пайсці, каб забыцца
Свой смутак тут.
Пайсці, каб застацца
Незагоеным успамінам.
Самому прыспешыць
Свой Страшны Суд.
Пайсці, каб застацца
Ўсявышняму вінным.

***

І гэты свет аднойчы быў пачаты,
Каб той
Свой неспасціжны меў працяг.
І забыцця спагадлівыя шаты
Бяруць у засень
Наш кароткі шлях.

Той свет
Цікавіць нас на гэтым свеце.
А ці ўзгадаем
Гэты свет на тым?
Хто нас прывеціць –
Рай ці апрамецце?
Ці мы ўзгадаемся сабе самім?

Рыкае непамыснасці цяліца
На здратаванай пашы мітусні.
Апошнім з Панам Богам падзяліцца
Душа ляціць,
Забыўшы доле дні.

Не засыхае хмара дажджавая.
Трава жывая
Будзіць сон капца.
Апошняга нічога не бывае.
Жыццё і пачынаецца з канца.

*Ліст да Васіля Быкава ў Нямеччыну*
*31 кастрычніка 2002 г.*

***

Лёс
Поўны воз табе вязе.
Яшчэ бяда
Не горбіць плечы.
І маладому па назе
З жыццём навыперадкі бегчы.

Скупую торбачку нясе
Твая здарожаная доля.
І пачынаеш пакрысе
Ступаць абачліва,
Паволі.



Жыццё ідзе,
А ты за ім
Пляцешся
Ўначэлым ценем.
Ты на зямлі,
Як ціхі дым,
Сплывацьмеш
Са сваім найменнем…

***

І заўтра, і сёння,
І ўвесь свой век
У самога сябе ў палоне
Жыве чалавек.

Спачатку вядома
Малому,
Як уцячы з палону.

Дарослы розум
Больш давярае
Крозам.

Пасля
Ўжо зямля
Падказвае выйсце.

Як і заўсёды…
Як і калісьці…

## З дазволу…

*Біскупу Уладыславу Бліну*

Мы на зямлю прыходзім,
Каб сагрэць
Прывечаныя продкамі сцяжыны.
І зорыцца ў нябёсах
Шлях Птушыны,
Каб душам весялей было ляцець.

Туды,
Дзе не бяднее багадаць,
Дзе шчодрай робіцца душа скупая,
Дзе радасць па лугах святла ступае,
Дзе ўсмешку лёсу лёгка разгадаць.

Дні нашы –
Пчолы ў ранішнім вуллі.
Як стомленыя зоркі –
Нашы вочы.
Вол клопату
Нясе свой смутак з пашы.
Жывем
З дазволу Бога на зямлі.

## Завознік

Завознік на млыне,
А млын завецца часам.
Стаю ў даўгім завозе.
Млыну не да мяне.
Пасуся самапасам,
Паверыўшы дарозе.

Ляжаць мае мяхі,
Дзе чэзнуць дзён зярняты
З далоні Пана Бога.
Млынар, амаль глухі
Ад гулу, у будні й святы
Бярэ з мяха любога

І засыпае ў кош
Бурштын зямлі шурпаты.
Скрыгочуць камяні.
І памінальны коўш
Не ад апошняй раты
Хмялее ў цішыні…

## Дасведчаная дабрыня

*Юрыю Стулаву*

Дня шырокая даланя
На высокім чале небасхілу.
Неакрэсленае птушаня
Знойдзе неразгаданую сілу
У крыніцы
З жывой вадой,
Што даверылі продкі нябёсам.
Трэба йсці
Маладой хадой,
Каб вачмі
Павітацца з лёсам.
…І дасведчаная дабрыня
Абароніць ад наслання…

## На шалях дабра і зла

На шалях дабра і зла
Няма раўнавагі ніколі.
У хітрай свавольніцы долі
Расплывісты почырк вясла.

На шалях зла і дабра
Ніколі няма раўнавагі.
У Вечнага Дрэва кара
Баліць ад няўвагі й знявагі.

Вясельная чарка й куцця
На шалях трывання й знікання.
Трывогі гарластая каня
Галосіць на лузе жыцця…

## Не верыш

Канец жыцця
Пачатак паўтарае:
Які прыйшоў –
Такі й ты адыходзіш.
Табе адна маркота патурае.
Каўшу з гаркотаю
Не скажаш: годзе ж!

Час б’ецца,
Як падлётак-недаперыш,
З гняздзечка выпаўшы
На недакосы.
Што ты знікаеш,
Сам сабе не верыш,
Няпэўны, як туман,
Як вецер, босы…

***

Надвор’е стомленай душы
Прагнозу не падпарадкуецца.
Анёл спагады апякуецца,
І смутак хмель ліе ў каўшы.

На сподзеў п’е душа з каўшоў,
Каб паступова праяснілася
Усё, што ў снах вясновых снілася,
Пакуль па стрэхах дождж ішоў.

Душа прачнецца –
І наноў
Няўдзячныя атуляць клопаты.
Цвярозы дзень
Учыніць допыты:
Што снілася ў краіне сноў?..

***

Літаўраў грымучая медзь
Прыглухне, як рэха ў бары.
І прыйдзе час зразумець,
Што ты незваротна стары.

Пачнеш вучыцца тады
Лічыць недакладна гады.
Ля соннага ручая
Свяціцьмеш сівой галавой,
Аж покуль старасць твая
Не застанецца ўдавой…

## Адзін

Няма да каго прыхінуцца душою,
Нікога наўкол няма.
Душа свая часам здаецца чужою,
Не чуе сябе сама.

Спадаюць дні,
Быццам з дрэва суччa.
Сплываюць ільдзіны дзён і гадзін.
Адзін прыходзіш на свет калючы
І адыходзіш – адзін.

## Нешта птушынае…

Нешта птушынае мае душа –
Цягне штовесну да родных мясцінаў,
Дзе маладую самоту ўспамінаў
Грэе азяблы прамень ледзяша.

Незаручоная птушка сама
Ведае тыя дарогі,
Якія
Змерылі крыллі яе трапяткія
Ў край,
Дзе тугі па радзіме няма.



А на зямлі паланянку душу
Толькі
Туга па радзіме трымае.
Нешта мне шэпча
Трывога нямая.
Быццам не чую –
Сабе я хлушу...

## Як жывецца…

*Алесю Камоцкаму*

А багатая душа не скупая
Ні на шчырасць,
Ні на неспакой.
І ніхто ў яе не запытае:
Як жывецца табе самой?

А багатая душа маладая,
Бо старэць ёй няма калі.
А багатая душа галадае –
Не пякуць ёй хлеб на зямлі.

І багатая,
А па-жабрацку
Ходзіць з торбай пустою адна,
Каб было куды зорам сабрацца.
Толькі торба не мае дна…

***

І ўзрушана
Зямлю араў нарог,
Каб сеяў лёс
Журбу сваёй рукою.
І сейбіту
Спрыяў у працы Бог,
Журба ўзыходзіла
Каля дарог
Сцяна сцяною.

Мы не жывем –
Мы толькі жнем журбу,
Цапамі нашай памяці
Малоцім.
Зажураныя,
У неба шлем мальбу.
Мяхі журбы
Даем свайму гарбу
І час наш блоцім.

І кожны з нас
Журбу ў сабе нясе.
Дубам журба
Маланкай крышыць кроны.
І тоіцца
Журба ў жывой красе.
Журбою пахнуць
Словы нашы ўсе,
Наш хлеб надзённы.

*Ліст да Васіля Быкава ў Хельсінкі*
*1 снежня 1999 г.*

***

Душа баліць
Зусім не так, як сэрца.
Той боль не ўтаймаваць нічым.
Няхай маўчым,
Няхай крычым –
Душу зняверыць боль-зняверца.

Той светлы боль
Нічым не ашукаць –
Ні шэптам, ані гаманою.
Той боль не тушыцца маною,
Бо ўмее полымем шугаць.

А ў полымі бязлітасна згарыць
На прысак марната любая.
Душы, што боль упадабае,
Захочацца загаварыць
Як на духу
З другой пакутацерпцай,
Зноў боль адчуць,
Нібы спярша…

Пакуль баліць душа,
З надзеяй
Можа біцца сэрца.

***

Самую сябе пашкадуе жуда.
Успомняць, нашто яны дадзены, ксты.
Свой голас чуць знадакучыць ляманту.
Праз даліну Праведнага Суда
Нацягнены будуць два масты –
Адзін з жалеза,
Другі з пергаменту.

Накрэсляцца на пергаменце
Боскія сны,
Якімі дзяліўся Госпад з анёламі.
Жалезны мост выгарбяць перуны,
Каб здрадным слядам
Гарэць, як у полымі.

Памкнуцца на Храмавую гару наўпрост
Грэх жалезным,
Пергаментным мостам – бязгрэшша.
І не вытрымае жалезны мост –
І рэхам балючым рухне ў бязрэшша.

Пергаментны мост –
Вясёлцы радня.
Раскашуючыся ў аблочыстым дыме,
Трывацьме да новага Суднага Дня
У Гасподнім лецішчы –
Ў Ерусаліме…

*Ліст да Васіля Быкава ў Злату Прагу*
*4 студзеня 2003 г.*

## Не тут

Дзверы вечнай начы
Вісяць на круках,
Чарнакрыла распятых,
Глюгатых.
Ходзяць цені грэшнікаў на руках
Па зачараваных кратах.
У катлах закіпае смала
З сосен смутку,
Падсочаных жалем.
Ператомленая імгла
Не дае сустрэцца скрыжалям…

## Прызімак

Два апошнія яблыкі
На галодным суку
На дол у адчаі
Драўлянымі пазіраюць вачамі.
Кожны баіцца зваліцца.

Усё, як у садзе людскім, –
Хто за кім?..

## Salvāvi animam meam

Ратоўца й вартаўнік душы
Сваёй
На цёмнай той мяжы,
Дзе звада
Вадзіцца са здрадаю,
Не веру я віжу й вужу,
То каменем,
То пухам падаю
І ўсё над прорваю кружу.

Хачу я,
Пратурыўшы жаль,
Паразумеўшыся амаль
З нябеснымі й зямнымі мытнямі,
Вяртаючыся з кірмашу,
Сказаць услед за старажытнымі:
Я ўратаваў сваю душу.

***

Крыж – спынены вятрак
І ўсмешка руху,
Бо толькі ў руху
Рух жыве і ўсім
Дае жыццё,
Адвеяўшы на дым
Мітрэнгаў нашых марных пацяруху.

Крыж – скарчанелы птах
І ўзмах сумневу,
Які застыг, пачуўшы вышыню.
І рыжы жах
Сумеўся ўпершыню,
Не ведаючы, што параіць дрэву.

Крыж – гэта мы,
Што ўсё ўхапіць хацелі
І нецярпліва рукі развялі.
Але здранцвелі й ценямі ў быллі
Дрыжэцьмем
Над сваёй глухой пасцеллю.

*Ліст да Васіля Быкава ў Нямеччыну*
*4 кастрычніка 2002 г.*

## Пусці

Стопчацца сцежка ў гэтым жыцці.
Кладка сплыве па рэчцы.
Бога здарожанага пусці
Ў хату душы пагрэцца.

Іншая сцежка вядзе ціхама́
Да ранішняга парога.
Іншая кладка кладзецца сама
Цераз віры былога.

Будзеш цягнуцца, як ліст,
Да святла.
Злятацьмеш,
Як з вока павечка.
Толькі б сцежка твая не ўцякла,
Кладку тваю
Не сагнала б рэчка.

## Як сястру…

А душа,
Покуль зноў зямная,
І не ўспомніць, які ўжо раз
Свет знаёмы запамінае,
Дзе сябе пазычае час.

За начлег у знаёмым целе
Часу доўг душа аддае.
І куды б зоркі ні паляцелі,
Не забудуць паклікаць яе.

У нябёсаў свае падворкі.
Лёс ладзьбуе свой воз стары.
І душу пасылаюць зоркі
На зямлю,
Як сястру да сястры.

## Каб рунела душа

Каб рунела душа,
Кожны крыж свой нясе
Ад народзін да скону.
Усявышні сказаў
Не стамляцца красе,
Свету даўшы ікону.

На балючым крыжы
Нам нябёсы ўзняло
Рук Хрыстовых раскрылле.
Адступілася зло,
Ды ўваскросла святло.
Ройна на небасхіле.

Вучаць лётаць крыжы
Крумкача і арла.
Дол чакае, вядома,
Каб на крыж,
Развітаўшыся з намі,
Магла
Абаперціся стома.

***

Лёс да кожнага прыходзіць босы,
Як Хрыстос,
Каб бядзілі кожнага турботы,
Як абуць свой лёс у лапці, ў боты.
А яму не знасіць калёсы.
Боссю – каб нячутна! –
Ходзіць лёс.

Ты, нявольнік, вольны выбраць путы,
Пасталы змяніць на кірзачы.
Грукай збітым, як парог, абцасам.
Смелы і ў руцэ з кавалкам ласым,
Помні заўсягды пра лёс разуты,
Ногі босаму не адтапчы!

## Позірк

Нязмерклым позіркам ікон
Глядзіць на нас Прысуд халодны.
А ў позірку дакор, і кон,
І прага выбеліць палотны
Зямных шляхоў.

На іх вякі,
Што будуць, што былі аднойчы,
Нібы сухія васількі,
Ляжаць,
Нябесны сум не тоячы.

Не змерыць зорнаю вярстой
Жыццё.
І зверыць час няма чым.
А можа, гэта позірк той,
Які чакаем,
Ды не бачым?

## Адпаведна

Па выбоінах часу
Падскоквае воз,
Што вязе і святло, і пакуты.
Кожны сам
Дакарае і няньчыць свой лёс,
Кожны сам да сябе прыкуты.

І цярпліва чакае
Кожнага дол,
Адварочваецца пагарда спіною.
І над кожным крыляе
Ягоны анёл,
Чорт бяздомны
Варушыцца пад рабрыною…

***

Я забыўся,
Як бульба цвіце
Безнадзейнадаверлівым цветам.
Як Пярун,
Развітаўшыся з летам,
Кленчыць кожнай зялёнай вярсце.

Я прыглух у чужой тлумаце.
Цішыня
Мне ўжо стала сакрэтам.
Пяўся
Паразумецца са светам,
А забыўся,
Як бульба цвіце…

## Малітва

Я ў свеце настолькі адзін,
Я ў свеце настолькі маленькі,
Што памяці сцёртай каленькі
Збіваю,
Паўзу ў напамін,

Каб Бог не забыўся мяне.
Ды я перад Богам маленькі,
Мае Ён не ўчуе маленні
І нават уніз не зірне.

Як спусціцца Бог на зямлю,
Дык я, перад небам маленькі,
Даткнуся да лёгкай кавенькі
І крыўды на попел спалю.

## Рабства

> Той – раб пыхлівасці,
> той – стаў рабом народу,
> няўдзячлівага й ветранага зброду…
>
> *Амадыс Камен*

Хто першы з іх на белы свет
Прыйшоў – свабода ці няволя?
На цаліку чый першы след
Аднойчы ўбачыла спатоля?

Няволя з норавам крутым
Прывабліваць давер'е ўмее.
Ды ўміг сплыве ружовы дым –
І з чарнахмар'я зыркнуць змеі.

Свабода – кволае дзіця.
Усім кіруе перамога.
Жывыя ўсе – рабы жыцця.
І кожны – раб сябе самога.

## Следам…

Дрымотнай павуціны
Шоўк
Акрыў чало паляне.
Застаўся я
Адзін як воўк
Суцешыць развітанне.

Цень вогнішча ляснога
Змоўк.
Сум разбудзіла жрыца.
Я нікаю
Адзін як воўк,
Каб страху заіскрыцца.

І следам за ваўкамі
Знікаю,
Замаўкаю…

## Ворагі

І ворагі чалавеку хатнія ягоныя…
*Дабравесце паводле святога Мацвея 10:36*

Чалавек –
Ён вораг сам сабе.
А без ворагаў ён сіраціна.
Сваякі – як сінякі на лбе.
Хатнія – калючыя, як кпіна.

Не прыкідваючыся ні на міг
Дабрадзеямі па абавязку,
Хатнія хутчэй сябе саміх
Запрашаюць на бяседу ў казку.

Хатнія,
Пачуюцца яны
Дрэвамі далёкімі ў карэнні.

Адыходзяць крэўнікі,
Як сны.
Хто іх, дзе, калі
І як сустрэне?..

